партыйнымі сваркамі і занімаемся тым, што выкарыстываем народны голад. Гісторыя адкажэ нам на ўсё гэта неўмалімым, але справядлівым прыгаворам!“

## У Вільні і ваколіцах.

× **Беларускі Камітэт** выдаў безплатных абедоў бедным вучням беларускіх школ у Вільні і асобам (пераважна дзецям), якіе знаходзяцца пад апекай Камітэту, у месяцу маі 4736, у чэрвені — 4263.

Паніжэньне цыфры выданых абедоў ў чэрвені тлумачыцца тым, што ў другой палові месяца Камітэт выслаў у ахронку ў Чорным Боры 60 дзяцей, каторые тамака маюць поўнае утрыманьне.

× **Гадаўшчына выстаўкі работных дамоў.** 30 чэрвеня 1917 г. мінуў год, як у Вільні наладжэна Выстаўка работных дамоў, каторая мае, як вядома, 4 аддзелы, ў тым ліку беларускі. За год было на выстаўцы 40.000 душ публікі. Абарот — каля 200.000 м. Спэцыальна, або часьцю для выстаўкі працуюць 608 сталых асоб і 1107 падросткаў.

× **Змена Stadthauptmann'a.** 30 чэрвеня Stadthauptmann Поль пакінуў Вільню і вярнуўся ў Тыльжу, каб ізноў заняць тамака мейсцо местоваго галавы.

19 верасьня 1915 г., назаўтра пасьля заняцьця Вільні немцамі, ён быў назначэн за граданачальніка і пачаў спаўняць свае павіннасьці 22 верасьня.

× **У радзільным доме** упраўленьня Літаўэн, Вясёлая 15, безплатна лечаць кабет, хворых на палавые хваробы. Прыём адбываецца ў панядзелкі, серады і пятніцы ад 8 да 9 гадз. раніцай. Дактары, якіе тамака лечаць, павінны захаваць у сэкрэці, каго лечаць, бо многа кабет хварэе без іх віны.

× **У Ботанічны сад** асобы, не маючы білета ў тэатр, могуць хадзіць толькі заплаціўшы за ўход 10 фэн.

× **Кара сьмерці.** Палявы суд 15 марца г. г. засудзіў на сьмерць Казіміра Бялковскаго за тое, што ён 8 лютаго, маючы пры сабе рэвольвэр, напаў на дом купца Чорнаго пры В. Стэфанскай вул. 20.— 30 чэрвеня кара сьмерці споўнена: Бялковскаго расстрэлялі.

× **Кража каровы.** 26 чэрвеня, а поўдні, кабета с Шырвінт прывязала на Вількомірскай вуліцы сваю 6-гадовую карову с крэпкімі рагамі і пайшла на падворак. Калі праз поўгадзіны яна вярнулася, дык каровы ўжо не было. Яе, відаць, укралі.

× **Тэмпэратура.** Найвышэйшая і найніжэйшая тэмпэратура за апошніе дні была (па Цэльсію):

| | найвыш. | найніж. |
|---|---|---|
| 27—28 | + 26° | + 13° |
| 28—29 | + 29,5° | + 16° |
| 29—30 | + 27° | + 16° |
| 30— 1 | + 29° | + 18° |

× **Народные страўні.** Чысло людзей, абедаўшых у народных страўнях, дайшло ўжо 80.000 у дзень.

Падвоз рыбы узрос да такой меры, што яе ўсей не маглі распрадаць, і залежаўшуюся рыбу прыходзілося ужываць, як адпадкі.

Да каніны, каторую падвазілі ў Вільню, народ тутэйшы не прывык і купляў яе ня вельмі ахвотна.

Два разы ў Вільню падвязьлі па вагоне кміноваго сыру, але і яго народ купляў ня вельмі ахвотна, і большую часць яго прышлося аддаць у ваенные кантыны, хаця цэна 1.50 м. за рас. фунт — даволі прыступная.

Гэтымі днямі прыбывае трэйці вагон сыру. Цяпер у ваенным часі трэба карыстаць паводлуг магчымасьці з усяго, што можна дастаць.

## З усяго Краю.

БЕЛАСТОК. Stadthauptmann установіў спэцыальны падатак з лесьвіц, балконаў і іншых выступаючых на вуліцу прыбудовак. Гадавы падатак установлен у размеры: за кожную ступеньку — 1 м.; за кожын балкон або прыбудоўку да 3 кв. м. — 2 м. Калі гаспадар дому грошы не заплоціць, іх будуць спаганяць з упраўляючаго домам, або с кватэрантоў.

У домі № 17 пры Нямецкай вуліцы крымінальная паліція выкрыла толькі-што наладжэны патайны браварок.

ГРОДНЯ. Тут цяпер знаходзяцца нямецкіе прэдстаўнікі розных прафэсій дзеля знаёмства з землямі Обэр Ост.

С прычыны узросту падвозу цэна на пазёмкі і трускаўкі панізілася да 80 фэн. за расейскі фунт. Спадзяюцца далейшаго паніжэньня. Фунт вішэнь каштуе 1 м. 30 фэн.

СКІДЭЛЬ. 24 чэрвеня гэтаго году пасьвенчэн ваенны магільнік дзе пахаронены пагібшые ў вострых бітвах восеньню 1915 г. салдаты. Як вядома, ад 8 да 11 верэсьня тут ішлі вельмі заядлые бітвы, і Скідэль тройчы перэхадзіў з рук у рукі. Магільнік мае колоннаду з надпісам па нямецку: «Тут лежаць тысяча нямецкіх і трыста расейскіх ваякоў, паўшых за бацькаўшчыну ў бітвах ля Скідэля ў 1915 гаду».

Магільнік адкрыт з вялікай урачыстасьцю.

ЯШУНЫ. Міхал Адамовіч, Константын Рафаловіч і Лавіновіч у начы с 3 на 4 чэрвеня напалі ў ваколіцах Яшун на кабет, несшых спажыўные прадукты, і забралі іх. Віленскі акружны суд засудзіў першаго на 2 гады, другога — на 8 месяцоў і трэйцяго на 1 год у папраўчы дом.

ГРАНДОВА. Селянін Пётр Бірвідовіч у тутэйшых ваколіцах адабраў у аднэй кабеты з Вільні гарох і муку. Віленскі акружны суд, прынімаючы пад увагу, што Бірвідовіч павінен быў карміць 6 дзяцей і што хата яго згарэла ў часі бітв, прызнаў зменшаючые віну акалічнасьці і засудзіў яго толькі на 8 мес. у вастрог.

ДУБІЧЫ, Радунск. пав. Тут знайшлі трупы трох забітых жыдоў. Паліція выкрыла сьлед душэгубаў.

ВАЙЛОЎЦЫ. Гаспадар Гіполіт Панкевіч засуджэн на 1.000 руб. штрафу грашмі за тое, што ў восені 1916 г. укрыў ад уласьцей сваё збожжэ.

СКРАНДУТІС, Мар'ямпольск. пав. Тутэйшы селянін засуджэн Сувальскім акружным судом на 3 гады ў папраўчы вастрог за згвалтаваньне ўласнай дачкі, 22 гадоў.

За ўвесь час нямецкай окупаціі гэта першы падобны прыпадак.

---

МІНСК. Апрыч беларускаго нацыональнаго конвэнту, ў Мінску адбыўся і літоўскі з'езд, каторы прыняў рэзолюцію аб патрэбі для Літвы дэмократычнаго самаупраўленьня у еднасьці з другімі народамі на аснові фэдэрації. Даносіць аб гэтым украінская часопісь «Вільне Слово» ў № 41.

## З усяго сьвету.

ШТОКГОЛЬМ. «Socialdemokraten» даносіць, што ў тую сераду сюды прыбыў галава нямецкіх радыкальных соцыалістоў, Лэдэбур.

ШТОКГОЛЬМ. Штокгольмская конфэрэнція соцыалістоў цымэрвальдзкаго кірунку, назначэная на 3 ліпня, адложэна на два тыдні.

ШТОКГОЛЬМ. Галава бэльгійскіх соцыалістоў Вандэрвэльдэ прыбыў с Пецярбурга у Штокгольм і адбыў доўгую нараду з голандзка-скандынаўскім камітэтам.

ШТОКГОЛЬМ. Голандзка-скандынаўскі соцыалістычны камітэт закончыў перэгаворы с чэска-словацкай соцыалістычнай работніцкай партыей. Дэпутація чэхоў высказалася за утварэньне незалежнаго чэскаго гасударства ў межах аўстрыяцкай дзержавы. Гэтак сама і Расея павінна станавіць саюз аўтономных гасударств.

ВЕНА. Карэспандэнт «Arbeiter Zeitung» даносіць са Штокгольму, што туды прыехаў на соцыалістычную конфэрэнцію Сямён Вітык, соцыал-дэмократычны дэпутат з

## Даўные жыдоўскіе організаціі у нашым краю.

У беларуска-літоўскай дзержаве, вядомай пад імем Вялікаго Князьства Літоўскаго, правы жыдоўскаго народу былі вельмі шырокіе. Ад найдаўнейшых часоў, як толькі жыды пачалі ў нас сяліцца, тутэйшы народ, згодне з вядомай у ўсіх славян гасьціннасьцю, аказваў ім гэткую пашану, як кожнаму госьцю, ні ў чым не агранічываючы іх і, наадварот, акружаючы іх асаблівай апекай. Гэта адбілося і ў пазьнейшых пісаных законах нашаго краю—у знаменітым Статуці В. Кн. Літоўскаго, напісаным па-беларуску і ў тэй жэ мові некольки разоў друкаваным. Так, бачым тамака артыкулы, паводлуг каторых за крыўду, ўчыненую на меньні ці асобі жыда, вінавайцоў каралі цяжэй, чым звычайна.

Жыдоў, апрыч мовы і іншых нацыональных адзнак, злучае між сабой вельмі крэпка іх рэлігія. І першые організаціі пасяліўшыхся на нашай зямлі жыдоў былі аснованы не рэлігійным грунці. Жыдоўскіе рэлігійные грамады, становячы найніжэйшую організацыйную клетачку, злучаліся далей у кагалы. Кагал абнімаў даволі значнае чысло грамад, часта маючы пад сабой вялікі абшар зямлі. Яму прыслухоўвалі такжэ так-званые прыкагалкі, злучаўшые некольки грамад і незалежна упраўляўшые сваімі ўнутрэнымі справамі, але падаткі і іншые павіннасьці назначаў кагал.

Апрыч гэтых мейсцовых організацій, каторые кіравалі зусім незалежна ад гасударственай уласьці сваімі штодзенными справамі, жыдоўскі народ на нашай зямлі карыстаў с поўнаго самаупраўленьня і ў сваіх агульна-нацыональных справах. Гэта ясна выявіцца, калі разгледзім вышэйшые жыдоўскіе органы самаупраўленьня.

Найбольш стройнай была жыдоўская організація ў часі ад 1623 да 1761 году. Тады найвышэйшым урадам для жыдоў быў „сэйм, або сынод грамад Літвы“. На гэты сэйм сперша пасылалі дэпутатоў толькі тры округі: Брэсцкі, Гродзенскі і Пінскі; ад 1652 году да іх далучыўся Віленскі округ, а ад 1691 такжэ Слуцкі. Магілёўшчына і Вітэбшчына мелі сваой асобны сэйм, называўшыйся Беларускім, але, судзячы паводлуг некаторых актоў с таго часу, поўнай незалежнасьці Беларускі сэйм ня меў і над ім меў у некаторых справах уласць сэйм грамад Літвы.

Кожын округ, пасылаўшый дэпутатоў на агульна-краёвы сэйм, або сынод, меў ешчэ і свае акружные сэймы, або сэймікі. Гэткіе сэймікі меў кожын з вышэй паменёных акругоў, у тым ліку і Беларускі округ, карыстаўшый с шырэйшых за іншые правоў. На сэймікі, якіе адбываліся пэрыодычна у адным з назначэных дзеля гэтаго пунктоў округа, з'ежджаліся дэпутаты ад усіх кагалоў таго округа. Сэймікі займаліся гэткімі справамі: 1) раскладкай розных аплат на ўсе жыдоўскіе грамады округа; 2) устанаўленьнем узаемных адносін між кагаламі, развязкай спорак паміж кагаламі, а так сама спорак між імі і прыватнымі асобамі; 3) выбарамі дэпутатоў на найбліжэйшы агульна-краёвы сэйм або сынод і выработкай інструкції для іх. Апрыч таго, на сэйміках разбіраліся розные іншые справы жыдоўскаго насяленьня округа ці якойбудзь часьці яго.

Беларускі сэйм збіраўся ў наперад установленым часі, але, наагул, не часта. Усёж такі ён меў свой пастаянны урад — глаўнаго рабіна беларускіх кагалоў, начальніка краю, ды пісара. Рабін атрымліваў, як на тые часы, даволі вялікую пэнсію. Глаўным рабінам беларускіх кагалоў быў ад 1715 да 1725 гадоў Саул Гінцбург подпіс каторага спатыкаецца на дакумэнтах, пісаных у Копысі, Дуброўне, Горках, Шклове,—дзе збіраліся кагальные сэймы.

Вельмі цікава тое, што ў жыцьці жыдоўскіх грамад здаўна выяўляецца барацьба між рабінамі і грамадамі—з аднаго боку і між заможнымі элемэнтамі і „галыцьбой“—з другога. Мы не маемо больш абшырных данных аб гэтым, але намёк на гэта спатыкаем у справі між Беларускай сынагогай і Шклоўскім кагалам, каторую ў 1746 гаду разбіраў літоўскі скарбовы трыбунал. Шклоўскіе жыды заяўлялі, шта рабіны павінны занімацца толькі духоўнымі справамі, а не падаткамі, што яны не маюць права спаганяць недоімкі і раскладаць падаткі: аб такіх справах, „паводлуг старога звычаю“, павінны ў кожнай грамадзе пастанаўляць з'езды заможных жыдоў, а не галыцьбы, каторые выбіраюць сваіх старэйшых і ўселякіхураднікоў сваіх.

Да ўсяго гэтаго трэба дадаць, што агульна-дзержаўная ўласць рэдка мешалася да жыдоўскіх унутрэных спраў, ды яна разгледала толькі спорные справы між сэймамі і кагаламі, жалабы грамад і паадзінокіх жыдоў на неправільные чыннасьці кагалоў і вышэйшых установ і т. п., пілнуючы, каб не была нарушэна констытуція В. Кн. Літоўскаго і агульна дзержаўные законы. А ўнутрэнае жыцьцё жыдоўскаго народу ішло зусім самабытнай дарогай, і, трэба думаць, гэтым тлумачыцца факт, што жыды дагэтуль захавалі ў нас сваю ўнутрэную нацыональна-рэлігійную організацію.

Х. Х.

Галічыны. Разам з Ганкевічэм і Тэмныцькім гэта ўжо трэйці прэдстаўнік украінскай соцыал дэмократіі у Штокгольмі.

МАСКВА. «Утро Россіі» даносіць, што 6 чэрвеня румынскі урад пакараў сьмерцю 32 асобы, ў тым ліку 7 соцыалістоў, за «здраду гасударства».

БЭРН. З Ірландіі даносяць: Пры выпуску паўстанцоў з вастрогу на вастрожнай башце вывесілі штандар рэспублікі. Фігура Фэміды была разбіта, выбіты вокны ў судовым трыбуналі і военным урадзі. Пад нацыональным памятнікам адбыўся людны мітынг, каторы у свaей рэзолюціі заявіў пратэст проці спробы англіцкаго ураду недапусьціць ірландзкае пытаньне на мірную конфэрэнцыю.

# Рэволюція у Расеі.

КІЕЎ. Уніяцкі мітрапаліт Андрэй Шэптыцкі прыеждждаў с Пецярбурга ў Кіеў са сваею дружынаю і тут высьвяціў на уніяцкаго біскупа ўсяе Расеі быўшаго праваслаўнаго сьвяшчэніка о. Фёдорова.

Незадоўга перад вайной о. Фёдоров прыеждждаў з Львова, дзе жыў апошні час, у Расею, а па дарогі заеждждаў і ў Вільню, дзе меў даволі многа знаёмых між беларусамі. О. Фёдоров—адзін с чынных працаўнікоў дзеля справы аднаўленьня уніі ў тых краёх, дзе яна была забаронена расейскім царскім правіцельствам ад 1839 году.

Мітрапаліт Шэптыцкі с Кіева езьдзіў у Тарнополь, а адтуль праз Пецярбург выехаў у Швэцію. Паводлуг некаторх газэт, ён збіраецца ехаць у Рым, ды там яго быцтым то маюць назначыць за кардынала. Тады ён вернецца ізноў у Галічыну.

МАСКВА. Тут адбыўся з'езд стараверoў, на каторым пастаноўлена гэткая рэзолюція:

Сабраньне маскоўскіх старавероў усіх толкаў, разгледзіўшы пытаньне аб аддзяленьні царкві ад гасударства, знійшлося на тым, што ўсе рэлігійные організаціі павінны быць свабодны і вольны ад гасударства. Цэрква ня можэ быць служкай гасударственай уласьці. Цэрква павінна адрачыся ад усеякіх прывілеёў перад другімі рэлігіями, павінна адмовіцца ад дзержаўнай помачы грашмі. Гэтаго вымагаюць заверэньня тых свабод, якіе павінны панаваць у вольнай Расеі. Гэтаго вымагае патрэба вольнаго развіцьця і кіраўніцтва нашых унутрэных патрэб.

КІЕЎ. «Кіевск. Мысль» пішэ што местовы спаўніцельны камітэт у Кіеві пастанавіў тэлеграмаю прасіць А. Брусілова арэштаваць і выслаць у Пецярбург пачаеўскаго архімандрыта Віталія, каторы вёў шкодную агітацію між салдатамі.

Пачаеўскі манастыр здаўна вядомы, як цэнтр чорнасоценства.

ЖЫТОМІР. Як пішэ «Рэч», местовы спаўніцельны камітэт у Жытоміры, прынімаючы пад увагу даўнейшую і цяперашнюю (чорнасоценна-абрусіцельную) «работу» архіепіскопа Евлогія, звярнуўся да тымчасоваго ураду с трэбаваньнем ураз-жэ скінуць Евлогія з мейсца.

ПЕЦЯРБУРГ. (П. Т. А.). З'езд рад раб. і салд. усяе Расеі вялізарнай перэвагай галасоў прыняў рэзолюцію, пададзеную соцыал-рэволюцыонерамі і меньшэвікамі, ў каторай гаворыцца: „Сучасная вайна узнялася ад імпэрыялістычных мэт кіраўнічых класоў усіх старон, жадаўшых здабыць новые рынкі і паняволіць экономічна і палітычна адстаўшые культурна краі. Гэта вайна нясе знішчэньне ўсім старонам і народам і стаўляе расейскую рэволюцію на краю пропасьці. Яна каштуе мільёны ахвяр, забірае мільярды і суліць узрост таго безладзьдзя, якое пакінуў стары лад. Яна вядзе да голаду і не дае старонцы рабіць работу, патрэбную дзеля ўмацаваньня волі. З гэтай прычыны з'езд высказывае сваю думку, што змаганьне за хутчэйшы канец вайны—гэта глаўная задача рэволюцыйнай дэмократіі. Гэтаго павінны дабівацца работнікі ўсіх старон. Уважаючы, што канца вайны можна дайсьці толькі злучыўшы сілы дэмократіі ўсіх старон, з'езд лічыць патрэбным, каб расейская рэволюцыйная дэмократія звярнулася з адозвай да дэмократіі ўсіх старон, прызываючы да працы дзеля кліча: мір без аннэксій і контрыбуцій на аснові самаапрэдзеленьня народаў. Поруч с тым трэба дабівацца чым-хутчэйшаго аднаўленьня інтэрнацыонала і сазыва міжнароднаго соцыалістычнаго з'езду. Дзеля развязкі ўсіх гэтых пытаньнёў павінны быць пасланы дэлегаты ў саюзные і нэутральные староны, каб запрасіць у Расею ўсе соцыалістычные партыі.

„З'езд заяўляе, што пакуль міжнародная дэмократія ня зробіць крокаў дзеля набліжэньня канца вайны, расейская рэволюцыйная дэмократія павінна ўсе сілы напружыць дзеля узмацаваньня фронту расейскай арміі, бо прарыў расейскаго фронту азначыў бы разгром расейскай рэволюціі. Пытаньне аб наступленьні можэ быць развязано толькі на моцы чыста военных і стратэгічных комбінацій“.

ШТОКГОЛЬМ. Маршалак рады раб. і салд., Чхэідзэ, напісаў нямецкаму дэпутату - соцыалісту, Мільлеру, каторы знаходзіцца тут, пісьмо, даносячы, што рада раб. і с. з радасьцю прымець нямецкіх соцыалістоў і што яна зусім здаволена ўчасьцем нямецкіх соцыалістоў у агульнай конфэрэнціі.

ЛОНДОН. „Morning Post“ даносіць, што меншасць англіцкіх соцыалістоў прыстала на запрошэньне расейскіх соцыалістоў прыехаць у Штокгольм.

ШТОКГОЛЬМ. Голандзка-скандынаўскі камітэт атрымаў вестку, што ў аўторак, 3 ліпня, сюды прыеждждае офіцыальная дэлегація пецярбурскай рады раб. і салд., зложэная с 6 асов.

ШТОКГОЛЬМ. На з'ездзі рад раб. і салд. усяе Расеі было 325 меньшэвікоў (староннікоў Чхэідзэ), 306 соцыал-рэволюцыонероў (соцыалістычны цэнтр), 30 інтэрнацыоналістоў (група Троцкаго), каторые блізкі да групы Леніна, і 115 староннікоў Леніна (большэвікі).

ЛОНДОН. С Пецярбурга даносяць, што Скобелев заявіў, што будуць зроблены энэргічные крокі, каб прымусіць саюзьнікоў пачаць мірные перэгаворы і паменшыць іх военные дамаганьня.

Спаўніцельны камітэт рады раб. і салд. высказаўся за учасьце арміі на фронці ў выбарах у устаноўчы сэйм, каб развязаць пытаньне аб міры, ці вайне.

ШТОКГОЛЬМ 1 ліпня ў Пецярбузі і ва ўсіх местох Расеі адбыліся вялікіе дэмонстраціі с прычыны падарожы дэпутатоў рады раб. і салд. Дэмонстраціі павінны былі паказаць, што работнікі і селяне жадаюць міра, хуткаго сазыва устаноўчаго сэйму і злучэньня дэмократычных сіл проці рэакціі.

«Земледельчэская Газета», орган міністэрства сельскай гаспадаркі, пішэ:

У Астраханскай, Орэнбурской, Самарскай губ. і Уральскай абласьці каля 50% зямель не засеяны. Якогаж працэнту даходзіць папар у Кіеўскай, Падольскай і Валынскай губэрнях? У цэнтральнай Расеі, над Волгай і ў Ново-Россіі гэтак сама незасеяны вялікіе абшары.

ПЕЦЯРБУРГ. З'езд казакоў высказаў сваю поўную веру тымчасоваму ураду і заявіў, што верыць у цесную еднасць Расеі с саюзьнікамі. Казакі цьвёрда стаяць за урад у яго змаганьні з анархіей і контррэволюціей. З'езд адкідае ўселякую думку аб сэпаратным міры і дамагаецца далейшай вайны дя поўнай пабеды. З'езд востра асудзіў дэзэртэроў, называючы іх здрайцамі, і прызывае насяленьне падпісывацца на пазыку.

ШТОКГОЛЬМ. Казацкі з'езд усяе Расеі прыняў усемі галасамі проці аднаго гэткую рэзолюцію:

1. Усе землі, якіе знаходзяцца ў руках казакоў, астаюцца іх уласнасьцю.

2. усе землі ў межах казацкіх ваколіц, дадзеные старым урадам не казакам, а такжэ землі, каторые тамака мае гасударство або цэрква, павінны быць вернены ранейшым валадаром.

3 землі ў казацкіх ваколіцах, якіе цяпер належаць да селян, астаюцца селянскімі.

ШТОКГОЛЬМ. Матросы военных параходаў «Баян», «Богатыр», «Олег» і «Рюрык» пастанавілі пратэставаць проці Керэнскаго, як міністра флота, за яго самавольство, выявіўшаеся ў адстаўцы начальніка балтыцкаго флота гэнэрала Максімова без згоды дэпутатоў ад флота. Разам с тым яны пастанавілі вызваць Керэнскаго ў Гэльсінгфорс дзеля асабістаго тлумачэньня.

У Пецярбурзі наладжэн камітэт дзеля організаціі рэволюцыйнай арміі з дабравольцаў. Камітэт маніцца організаваць батальёны з дабравольцаў, каторые павінны сваім прыкладам пацягнуць за сабой усю армію. Гэтые дабравольцы самі выбяруць сваё начальство. З усіх канцоў Расеі ўжо запісалося многа ахвотнікоў.

Агульна-украінскі военны з'езд зажадаў ад цэнтральнай украінскай рады, каб яна разарвала зносіны з урадам і апавесьціла аўтономію Украіны. Апрыч таго з'езд жадае, каб земля была ўраз жэ падзелена і каб украінскі народ быў організован на нацыональных асновах.

ШТОКГОЛЬМ. Экіпажы трох броненосцаў Паўночнаго мора прынялі ўсемі галасамі рэзолюцію, дабіваючыся ад тымчасоваго ураду перавозкі цара у Кронштадт дзеля аканчацельнаго суда.

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.). Пасьля таго, як усе спробы намовіць стральцоў 12 і 13 дывізіі прыстаць на рэорганізацію іх нічога не дайшлі, па загаду военнаго міністра Керэнскаго стральцоў акружыла кавалерыя. 500 стральцоў паддаліся; у іх узялі аружжэ і павялі.

Як даносіць расейскае бюро прэссы, організація жаноцкіх военных дружын пачалася тады, як салдаты шмат дзе адмовіліся наступаць.

ПЕЦЯРБУРГ. (Гавас П.Т.А.). У адказ на рэзолюцію рады раб. і салд. аб роспуску думы адбылася прыватная нарада членоў думы, каторая прыняла ўсемі галасамі гэткую рэзолюцію:

„Дума, прымусіўшая цара Мікаля адрачыся ад трону і памагаўшая наладзіць тымчасовы рэволюцыйны урад, сама становіць рэволюцыйную установу і ня можэ перэстаць быць прэдстаўніцай націі“.

ШТОКГОЛЬМ. Прэдстаўнікі фронту, прыехаўшые с фронту, дамагаюцца, каб усе манахі паступілі ў армію, а манашкі каб працавалі на палёх.

ЦУРЫХ. Надзвычайная сьледчая камісія пастанавіла пачаць прэдварыцельнае сьледзтво у справі Штырмэра, Протопопова, Добровольскаго і генэрала Рэннэнкампфа.

Артур Гэндэрсон паехаў з вельмі важным паручэньнем у Маскву.

«Нов. Вр.» пішэ, што ў Пецярбурзі цяпер знаходзіцца каля 35.000 анархістоў. У адкрытым пісьме да тымчасоваго ураду яны грозяць узрывам военных фабрык, калі пачнуцца военные опэраціі. Калі ім не дадуць свабоды сходаў, дык яны са свайго боку аб'явяць Пецярбург у стане асады.

ШТОКГОЛЬМ. С Пецярбурга даносяць, што устаноўчы сэйм назначэн на 13 кастрычніка, а выбары дэпутатоў — на палову верэсьня.

ПЕЦЯРБУРГ. Тымчасовы урад скасаваў военные суды.

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.). Урад маніцца наладзіць асобную экономічную раду пад маршалкоўствам міністра-прэзыдэнта. У ей будуць заседаць прэдстаўнікі рады раб. і салд., селян, прамышленікоў, купцоў, біржы, прафэсыональных саюзоў і мест.

Міністэр фінансоў апрацаваў праект закона, каб на людзей, якіе маюць больш за 10.000 руб. у год даходу, накладалі-бы апрыч падаходнаго падатку тройчы ў год дадатковы налог.

С прычыны недастачы газэтнай паперы ранічные газэты могуць мець найбольш 252 стаўбцы ў тыдзень, а вячорные—найбольш 150. Выключаецца з гэтаго толькі урадовы орган і «Ізвестія», газэта пецярбурскай рады раб. і салд.

Военны міністэр Керэнскій выехаў дзеля інспэкціі ў Казань і на Каўказ.

ЛОНДОН. Бэльгійскі соцыаліст Вандэрвэльдэ пішэ ў «Daily Chronicl» аб варунках жыцьця ў Расеі. Ен кажэ: „Палажэньне ў Расеі ўсё ешчэ заблутанае. Фінансы зруйнаваны. Раздзел спажыўных прадуктоў—у безпарадку. Дарогі—ў хаотычным стане. Трэба дзівавацца, што Расея не распадаецца. У Расеі пануюць варункі, пры якіх заходня-эўропэйскіе дзержавы дайшлі бы да поўнаго развалу“.

# ТЭЛЕГРАМЫ.

## Нямецкіе апавешчэньня:

**29.VI. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: У Фляндрыі на некаторых адрэзках — востры агонь. Заядлые бітвы узняліся ўчора між каналам Лябассэ і Скарп. У вечары між Іліш і Мэрікур і між Фрэнуа і Гаврэль пайшлі ў атаку некольні дывізій. Пасьля вострай штыкавой бітвы англічане ўмацаваліся ў нашых пярэдніх лініях між Опі і млыном Гаврэль. На ўсіх іншых пунктах ворагі адбіты агнём і контратакамі. Ворагі мелі вялікіе крывавые страты.

*Фронт нямецкаго Насьледніка*: Пры Шмэн дэ Дам, пры Фор дэ Мальмэзон, на поўдні ад Курт Пон і на палудзенным усходзі ад Ай мы

